Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№39 ліпень 2014

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## 24 гады таму 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце



**Мільёны беларусаў загінулі каб мы маглі пабачыць гэтую дату. Віншуем ўсіх тых, для каго словы вольнасць і незалежнасць гэта не пусты гук.**

**Са святам!!!**

## Скаргу гродзенскага журналіста Віктара Парфёненкі на МЗС разгледзіць... МЗС



Гродзенскі журналіст-фрылансер Віктар Парфёненка, які супрацуе з Беларускім Радыё Рацыя за апошнія гады ўжо 6 разоў падаваў паперы ў Міністэрства замежных спраў Беларусі на афіцыйную акрэдытацыю і кожны раз атрымліваў адмовы. Зараз Парфёненка склаў ужо сёмы раз пакет дакументаў у МЗС. У апошняй адмове было ўказана, што Віктар Парфёненка нібыта не прыклаў копію свайго пашпарту, хаця такая копія была. Цяпер журналіст дадаткова зрабіў пісьмовы пералік усіх прыкладзеных папер.

Паралельна Парфёненка накіраваў скаргу на МЗС і ўжо атрымаў на яе адказ з Савету міністраў, які скіраваў яе на разгляд у… МЗС. ¨н спадзяваўся, што акадэмік, старшыня ўраду Міхаіл Мясніковіч, даручыць чыноўнікам даць належную ацэнку дзеянням МЗС

## Гародня: імклівы разгляд касацыйнай скаргі



Сёння ў Гродзенскім абласным судзе разглядалася скарга журналіста Беларускага Радыё Рацыя Андрэя Мялешкі на рашэнне Кастрычніцкага раённага суда Гродна, які прызнаў яго вінаватым ў вырабе інфармацыйнай прадукцыі без акрэдытацыі для замежнага СМІ.

Суд прайшоў ў імклівым рэжыме. Усяго дзесяць хвілін спатрэбілася суддзі Аляксею Цвяткову, каб разгледець ўсе тонкасці і нюансы справы і не задаволіць скаргу Андрэя Мялешкі. Суддзя задаў толькі некалькі пытанняў і пакінуў рашэнне першай судовай інстанцыі ў сіле.

Андрэй Мялешка не збіраецца здавацца і будзе абскарджваць гэтае рашэнне ў вышэйшыя судовыя інстанцыі.

Не адбылося і без маленькага скандалу. На самым пачатку дзяжурны супрацоўнік міліцыі не пускаў у судовую залу гродзенскага праваабаронцу Віктара Сазонава. Свае дзеянні ён тлумачыў тым, што ў яго ёсць загад не пускаць нікога, акрамя удзельнікаў працэсу. Таксама ён сцвярджаў, што ў зале няма месца. Пасля таго, як выйшаў Андрэй Мялешка і абвесціў, што зала пустая, а Віктар Сазонаў настойваў на ўзгадненні такіх дзянняў міліцыі з сакратарыятам, міліцыянт некуды затэлефанаваў, яшчэ раз перапытаў прозвішча праваабаронцы і зноў падцвердзіў, што таму на суд патрапіць нельга. І толькі рашэннем суддзі пасля патрабавання Андрэя Мялешкі праваабаронца патрапіў на гэты працэс, які скончыўся так імкліва.

Нагадаем, што гродзенскі журналіст Беларускага Радыё Рацыя Андрэй Мялешка быў абвінавачаны ў незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыйнай прадукцыі і аштрафаваны.

## Лібералізацыя па-беларуску: на мяжы канфіскавалі літаратуру




Удзельнікаў летніка “За еўрапейскую інтэграцыю Беларусі” спынілі на мяжы. Прычынай сталі беларускія выданні. Некалькі чалавек вярталіся з Польшчы праз памежны пераход у Баброўніках – там іх багажом зацікавілася памежніца.

Кажа актывіст Слонімскай суполкі БНФ Павел Севасцьян:

- Калі “чырвоны” канал фактычна ўжо прайшлі, памежніца пачала пераглядаць нашыя торбы. Паглядзела, газеты былі – тыднёвік беларусаў у Польшчы, кнігі былі, у кожнай торбе кожнага чалавека патроху. Пазнаходзіла ў кожнага, усё затрымалі, будуць глядзець, потым сказалі вернуць. Узялі прачытаць на нейкую цэнзуру, можа там нешта супраць улады.

Сярод матэрыялаў, якія памежнікі забралі для праверкі, сярод іншага асобнікі кнігі пра палітычных зняволеных у Беларусі “Palitviazni.info”, а таксама выданні тыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва”. Актывісты вярталіся з летніка, які быў арганізаваны альянсам “Грамадзянская Гарадзеншчы

# Век залежнасці

***Рэспубліка Беларусь зноў на дзяржаўным роўні 3 ліпеня адсвяткавала так званы “дзень незалежнасці”. Адсвяткавала з усімі ўжо звыклымі атрыбутамі. Парады, паўсюдная чырвань-зелень, квота абавязковага ўдзелу ў народнай радасці прадстаўнікоў установаў і прадпрыемстваў – строга па спісу без права замены, марш-марш правай, марш-марш левай... Пакуль у Бразіліі футбольны карнавал, ва Ўсходняй Украіне вайна, у Беларусі савецкі марнатраў з выдаткаваннем вялізных грошай на ідэалагічнае афармленне пераемнасці “великой победы” у вайне яшчэ мінулага стагоддзя, якая ніяк ня можа скончыцца для савецкага чалавека ўжо семдзесят гадоў. Залежнасць ад той вайны такая глыбокая хваравітая, што ад яе нельга пазбавіцца. Нельга, бо гэта апошні масавы міф, на якім трымаецца хлусня пра гісторыю Савецкага саюзу.***

Праходзяць такія дзяржаўныя святы па звыклым сцэнары: галоўнакамандуючы ў вышытым ні то маршальскім, ні то генералісімускім мундзіры на трыбуне ў атачэнні адданых “саратнікаў”, пераапранутыя ў партызанак сучасныя камсамолкі, ветэраны НКВД з кілаграмамі ўзнагародаў на грудзях, паламаны танкамі асфальт цэнтральных пляцаў. Адусюль гучыць музыка з яшчэ савецкімі героіка-пафаснымі песнямі і новымі хітамі кшталту “русский парень в огне не горит, русский парень в воде не тонет”. Проста, нейкія кібер-монстры з кампутарных стралялак гэтыя “русские парни”. Спявае, дарэчы, хлопец з чыста беларускім прозвішчам. Дым шашлыкоў, стракатасць какошнікаў, сцягі Савецкага саюзу… Хоць усе ведаюць, што 3 ліпеня ад нямецкіх фашыстаў быў вызвалены толькі Мінск, значная частка Беларусі яшчэ заставалася пад акупацыяй. А можа гэтая дата як галоўнае дзяржаўнае свята была выбрана таму, што 4 ліпеня такую гістарычную вяху як Дзень незалежнасці адзначаюць у ЗША. Як раней казалі “дагонім і перагонім” альбо “сцеражыся карова са штату Аёва!”.



На прайшоўшым тыдні шырокая грамадскасць адзначала і іншыя святы. Так, у Будславе, гэтай неафіцыйнай сталіцы беларускага каталіцтва, прайшоў традыцыйны фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай. Вернікі і духавенства разам ушанавалі ўжо 400-ыя ўгодкі з часу з’яўлення цудатворнай іконы. У Будславе вельмі прыгожы, а галоўнае светлы і натуральны фэст, дзе ўсё прасякнутае верай і беларушчынай, дзе тысячы людзей у адзіным духоўным парыве разам моляцца і спяваюць. Нікога туды ня трэба заганяць праз сілу і па вызначаных спісах, людзі самы з радасцю ідуць у пілігрымку дзесяткі і нават соткі кіламетраў.

У розных мясцовасцях краіны і ў розныя дні святкавалася на мінулым тыдні і хіба найбольш старажытнае свята нашага народу – Купалле. Праўда, не ўсюды яно было дазволенае – у Мінску, прыкладам, у Жодзіне, чыноўнікі перастрахаваліся і забаранілі святкаваць. У адным з афіцыйных Купалляў – у аграгарадку Александрыя Шклоўскага раёна, узяў удзел і начальнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. ¨н з уласцівай толькі яму шчырасцю параіў беларусам не шукаць наіўна чароўную “папараць-кветку”, а будаваць шчасце ўласнымі рукамі. На гэтым тыдні кіраўнік Рэспублікі Беларусь адзначыць дваццатыя ўгодкі на чале дзяржавы – 10 ліпеня 1994 году якраз прайшоў другі тур першых і апошніх прэзідэнцкіх выбараў. За гэты час Аляксандр Лукашэнка паспеў нямала – нарадзіў сына, пабудаваў некалькі дамоў-палацаў у Драздах, пасадзіў нямала чалавек за краты. Не здолеў толькі пазбавіцца залежнасці ад савецкага мінулага. Без яго – мінулага – у светлую будучыню ніяк. Без “Лініі Сталіна”, без камсамолак-партызанак, без ста франтавых грамаў з металёвага кубку, без шматлікіх танкаў і гарматаў на цэнтральных пляцах. І без “русского парня”, які непахісна стаіць на ўсіх рубяжах і лініях нашай абароны ў гэтым жорсткім захопніцкім свеце. Які не пакіне нас адных. Такая вось векавая залежнасць.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

*(Гарадзеншчына, красавік - ліпень)*

## Адміністрацыйныя пераследы

У пачатку красавіка стала вядома, што міліцыя пачала адміністрацыйныя справы супраць праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля, якія правялі віншавальную акцыю 25 сакавіка. Пазьней яна была трактаваная міліцыяй і судом як несанкцыянаванае мерапрыемства.

**4 красавіка** ў Ленінскім раённым судзе Гародні адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы журналіста-фрылансера Алеся Дзянісава. У выніку працэсу суддзя Юрый Казакевіч пакараў сябра Беларускай Асацыяцыі Журналістаў штрафам 30 базавых велічынь, што на сёння складае 4 мільёны 500 тысяч беларускіх рублёў.

**У красавіку** актывіста Уладзімера Шульжыцкага Смаргонскі раённы суд аштрафаваў на 3 мільёны рублёў за распаўсюд праваабарончага бюлетэня «Смаргонскі грак». Хоць бюлетэнь, надрукаваны накладам 299 асобнікаў, распаўсюджваўся законна.

У Лідзе **5 траўня** завяршыўся суд над грамадскімі актывістамі, на якіх за ўшанаванне памяці беларускіх дзеячаў ў Дзень Волі, былі міліцыяй складзены адміністрацыйныя пратаколы нібыта за правядзенне несанкцыянаванай акцыі. Сяргей Трафімчык, Вітольд Ашурак, Мурат Мусаеў, Сяргей Сідарэнка і Юры Дзяшук былі прызнаныя вінаватымі і аштрафаваныя на 5 базавых велічынь. Яшчэ двое – пенсіянеры, вядомыя грамадскія актывісты Міхась Бурачэўскі і Станіслаў Суднік былі папярэджаныя.



**8 траўня** ў Гародні ў судзе Кастрычніцкага раёну адбыўся разгляд адміністрацыйных пратаколаў у дачыненні да сябра “Маладога Фронту” Станіслава Рачкеля і ягонага сябра. Суддзя Алена Тоўсцік-Самойла не захацела ўзяць пад увагу акалічнасці справы і засудзіла абодвух нібыта за дробнае хуліганства да 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

раць незалежнага журналіста Андрэя Мялешкі. Яго звінавацілі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыйнай прадукцыі. Працэс вёў суддзя Дзмітрый Кедаль, які некалькі разоў пераносіў разгляд справы і ўрэшце засудзіў журналіста-фрылансера 16 чэрвеня да вялікага штрафу – 4 з паловай мільёны беларускіх рублёў.

**20 чэрвеня** ў судзе Кастрычніцкага раёну Гародні прадоўжыўся адміністрацыйны працэс у дачыненні да старшыні аб’яднання жаўнераў Арміі Краёвай у Беларусі Веранікі Сабасцьяновіч. Яе спрабавалі звінаваціць у кантрабандзе пасылак гуманітарнай дапамогі. прадстаўнік гарадзенскай мытні Уладзімір Дзмітрыеў заявіў хадайніцтва пра адкліканне пратаколу і яго дапрацоўку. Пасля невялікага перапынку суддзя Тацяна Гергель задаволіла гэтае хадайніцтва. Фактычна на гэтым адміністрацыйны працэс скончыўся.

# Хроніка правапарушэнняў

*(Гарадзеншчына, красавік - ліпень)*

## *Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў*

У сярэдзіне красавіка Гарадзенскі абласны суд прадказальна не задаволіў касацыйную скаргу ваўкавыскага грамадскага актывіста Віталя Гуляка. Суддзя Мікалай Рачынскі пакінуў рашэнне Ваўкавыскага раённага суду без зменаў. Яшчэ 17 сакавіка суддзя Ваўкавыскага раённага суду Мікалай Талашка аштрафаваў грамадскага актывіста на 10 базавых велічынь за адзіночын пікет у падтрымку Украіны.

**21 красавіка** сябры Гарадзенскай Рады Партыі БНФ Вадзім Саранчукоў і Мікола Лемяноўскі атрымалі з гарвыканкаму афіцыйныя адмовы ў правядзенні інфармацыйных пікетаў. Дзве заяўкі падаваліся на 26-га красавіка – на дзень чарговых угодкаў чарнобыльскай катастрофы.




**13 траўня** Гарадзенскі абласны суд разглядзеў касацыйную скаргу сябра БАЖ Алеся Дзянісава на пастанову суду Ленінскага раёну. 4 красавіка суддзя Юрый Казакевіч у выніку разгляду адміністрацыйнай справы пакараў журналіста штрафам 30 базавых велічынь. Сёння суддзя Анатоль Заяц пацвердзіў гэтую пастанову.

**15 траўня** да гарадзенскага незалежнага журналіста Андрэя Мялешкі прыходзіў міліцыянт з Кастрычніцкага РАУСа. ¨н спрабаваў атрымаць подпіс пад складзеным загадзя пратаколам апытання, якога з журналістам не праводзілі.

**21 траўня** ў Гародні на сцяне ганаровага консульства Украіны ноччу невядомыя зламыснікі намалявалі свастыку.

**У траўні** гарадзенскі сябра БАЖ Віктар Парфёненка атрымаў з Міністэрства замежных справаў Беларусі ўжо шостую адмову ў акрэдытацыі. Чыноўнікі ўпарта не даюць магчымасці фрылансеру легальна працаваць.

**26 чэрвеня** Юры Дзяшук з Бярозаўкі Лідскага раёна накіроўваўся раніцай у Польшчу праз памежны пункт пропуску Брузгі-Кузніца. Аўтобус, якім ехаў журналіст, накіравалі на дагляд у асобнае памяшканне, але пазней увага супрацоўнікаў памежных службаў была скіраваная пераважна на журналіста.

Гарадзенскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу незалежнага журналіста Алеся Залеўскага на прысуд раённага суда ў Карэлічах. 27-га траўня журналіста, аўтара і вядоўцу праграмы на незалежным тэлеканале „Белсат“, прысудзілі да штрафу ў памеры 30-ці базавых велічынь за нібыта незаконны выраб прадукцыі для СМІ артыкул 22.9 КаАП. 26 чэрвеня суддзя Віктар Кавальчук падтрымаў гэтае рашэнне.

**26 чэрвеня** Алесь Астроўскі - прафесар Гарадзенскага медуніверсітэта, доктар медыцынскіх навук, быў звольнены з навучальнай установы. Такое рашэнне прыняла вялікая навуковая рада ўніверсітэту ў час конкурсу на замяшчэнне пасады прафесара. У прафесійным плане Алесь Астроўскі ніколі не меў ніякіх прэтэнзій.

# Само па сабе

***Беларускі менталітэт унікальны. Ні ў каго больш няма такога. І гэтая ўнікальнасць нават у мове адлюстроўваецца. Прыкладам, слова “нарабілася”. “Ой жа ж і нарабілася!” – кажа чалавечак. Нібыта не ён нарабіў, і ніхто не нарабіў. А ўзяло, і само нарабілася. І вось чакае наш чалавечак, калі ўжо прыйдзе час, калі нешта добрае само зробіцца. Што гэта? Невывучаны варыянт фаталізму, ці страх сваім удзелам зрабіць яшчэ горш, чым ёсць?***

Зусім нядаўна бавіўся я ў адной кампаніі. Гасцей было багата і ўсе людзі розныя. І навукоўцы, і рабочыя, і прадпрымальнікі ды проста працавітыя і руплівыя людзі, якія на пытанне: “Чым займаешся?”, сціпла адказваюць: “Працую на сябе”.

Што гэта азначае “працую на сябе”, у Беларусі ведае кожны. Дыяпазон прафесій у гэтай эканамічнай галіне даволі шырокі. Гэта і будаўнікі, і перагоншчыкі аўтамабіляў, і усе іншыя, хто не хоча ў сваіх працоўных стасунках звязвацца з сваёй жа дзяржавай. І калі некалі, гадоў дваццаць таму, у гэтую катэгорыю ішлі тыя, хто не хацеў дзяліцца з дзяржавай прыбыткам, то зараз гэта пераважна людзі, якія хацелі б працаваць легальна, але маюць негатыўны досвед стасункаў з структурамі роднай краіны. Таму і спадзяюцца выключна на таго, на каго вырашылі працаваць. На сябе.

– Наш чалавек ужо моцна стаміўся змагацца з ветракамі, – зрабіў выснову адзін з прысутных. – ¨н ужо нічога не хоча. Ні звышпрыбыткаў, ні неверагодных вышынь. ¨н хоча толькі спакойна працаваць, зарабляць на жыццё сабе і сваёй сям’і, плаціць падаткі, і каб яго толькі не чапалі. Але такога няма. Бо як толькі ты прызнаўся што ты зарабіў і хочаш чэсна заплаціць належны падатак, на цябе глядзяць як на злодзея. Ніхто не верыць, што ты можаш сказаць праўду. Усе пачынаюць капаць пад цябе, пераправяраць і ў выніку ты замест каб працаваць, мусіш даказваць усё астатняе жыццё, што да гэтага моманту ты працаваў чэсна.

– Што праўда, то праўда, – пацвярджае другі. – Але акрамя гэтага чалавек ніколі не ведае, што ім там заўтра ў галаву стрэльне. Толькі наладзіш сваю працу згодна з іх патрабаваннямі, як назаўтра іншыя патрабаванні. Як зараз з сертыфікацыяй.



– Гэта яны падганяюць умовы працы пад агульныя, што будуць дзеіць на тэрыторыі Еўраазійскага саюзу, – пачынае тлумачыць трэці.

– Спачатку былі ўмовы нейкай саюзнай дзяржавы, – пярэчыць яму суразмоўца. – Абяцалі нам, што як тая дзяржава ўзнікне, адразу ўсім стане лепш. І адразу стала горш. Проста адразу. Пасля казалі, што як у мытны саюз увойдзем, то ад багаццяў не будзем ведаць куды дзецца. Я то ўжо тады ім не верыў. Але ў мяне і не пыталі. Ну то ўвайшлі ў мытны, і адразу ж стала невыносна. Зараз ужо нейкі еўраазіяцкі саюз. Хваліліся, што цяпер то зажывём як на захадзе. А я ўвесь час думаў, калі яны хочуць зажыць як на захадзе, да на захад і трэба ісці. А яны каб жыць як на захадзе чамусьці лезуць на ўсход. Ну дзе тая логіка?!

– Вась-вось, – падтрымаў яго калега. – Як мы пачулі, як добра будзе ў тым ЕўрАзЭС, то адразу падумалі, хоць бы зусім капец не надышоў. І што вы думаеце, рэальнасць аказалася яшчэ горшай. Ну мяркуйце самі. Ва ўсім свеце кошты на нафту падаюць, а ў нас адразу сталі падымацца на бензін. І гэта пасля таго, як увайшлі ў гэты саюз з нафтавымі краінамі!

– А вы калі-небудзь чулі знакамітае выслоўе, што трэба шукаць галоўнае, а ўсё астатняе прыкладзецца, – уклініўся ў размову я.

– Ну чулі, – адказваюць хлопцы. – А што ты маеш на ўвазе?

– Асабіста для мяне, – тлумачу я сваю пазіцыю, – ісці на захад ці на ўсход пытанне не эканамічнае, а цывілізацыйнае. Я хачу каб наша Беларусь ішла на захад, бо лічу яе еўрапейскай краінай, якая мусіць развівацца ў еўрапейскіх цывілізацыйных традыцыях. Ну а дабрабыт, калі мы прымаем правільны духоўны выбар, да гэтага дакладзецца.

Хлопцы замаўчалі, задумаліся. А пасля наперабой загаварылі.

– Ну як то ён сам дакладзецца? Быць такога не можа. Хоць было б добра, каб сам. На Захад то таксама было б добра. Каб толькі і гэта неяк само па сабе адбылося.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на жнівень 2014 году

**1 жніўня**

100 гадоў таму (1914) – Пачалася Першая сусьветная вайна.

20 гадоў таму (1994) – Памёр Восіп Блізьнюк, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны ў Смургонях.

**2 жніўня**

465 гадоў таму (1549) – У Нясьвіжы нарадзіўся Мікалай Крыштап Сіротка Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, падарожнік-мемуарыст. Разам з братамі Альбрэхтам і Станіславам стварыў Нясьвіжскую, Клецкую і Алыцкую ардынацыі, быў першым ардынатам на Нясьвіжы. Валодаў найбуйнейшымі ў Вялікім Княстве Літоўскім лятыфундыямі.

220 гадоў таму (1794) – Пад Слонімам адбылася бітва паміж корпусам Караля Серакоўскага і расейскім войскам.

95 гадоў таму (1919) – У Вільні Цэнтральнай Беларускай Радай Віленшчыны і Гарадзеншчыны была ўтворана Беларуская вайсковая камісія – орган па фармаваньні беларускіх частак у польскім войску.



**5 жніўня**

150 гадоў таму 1864 – У Варшаўскай цытадэлі павешаны Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Вучыўся ў Сьвіслачы. Пахаваны ў Львове.

**6 жніўня**

130 гадоў таму (1884) – У мяст. Жыровічы (Слонімскі р-н, паводле інш. зьв. в. Клейнікі, Бельскі пав.) нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог.

100 гадоў таму (1914) – У в. Ачукевічы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Міхась Рагуля, грамадзкі, культурніцкі дзеяч, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**7 жніўня**

135 гадоў таму (1879) – У в. Дубна (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Пётра Крэчаўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР.

**11 жніўня**

130 гадоў таму (1884) – У в. Абабы (Новааляксандраўскі пав.) нарадзіўся Міхал Далецкі, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1924 служыў пробашчам у Уселюбе (Наваградзкі р-н), з 1933 быў дэканам і пробашчам у Наваградку.

**14 жніўня**

125 гадоў таму (1889) – У Дзюдзергофе (пад Пецярбургам) памёр Аляксандар Гінтаўт-Дзевалтоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху на Гарадзеншчыне.

**15 жніўня**

60 гадоў таму (1954) – У мяст. Падсьвільле памёр (паводле інш. зьв. 15 верас.) Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснаваньнікаў нацыянальнагістарычнага жывапісу. Вандраваў па Гарадзеншчыне, пэўны час працаваў у Наваградку. Пахаваны на могілках паміж в. Ліпляны і Малыя Давыдкі (Глыбоцкі р-н).

**16 жніўня**

145 гадоў таму (1869) – Памерла Габрыэля Альбіна Пузына, беларуская паэтка, мемуарыстка. Жыла ў Дабраўлянах (Смургонскі р-н).

**17 жніўня**

385 гадоў таму (1629) – У Алескім замку (цяпер мяст. Алеска, Львоўская вобл., Украіна) нарадзіўся Ян III Сабескі, кароль Рэчы Паспалітай і Вялікі князь ВКЛ у 1674-96.

65 гадоў таму (1949) – У в. Пустаборы (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Іван Сяргейчык, беларускі празаік, паэт, вайсковец.

**24 жніўня**

270 гадоў таму (1744) – У Гародні адбыўся павятовы соймік, які выступіў за захаваньне права “лібэрум вета”.

35 гадоў таму (1979) – У Сьвіслачы адчынены раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

**26 жніўня**

20 гадоў таму (1994) – У Менску памёр Сяргей Новік-Пяюн, беларускі паэт і пісьменьнік. Пахаваны ў в. Лявонавічы (Нясьвіжскі р-н). З 1931 да 1945 жыў у Слоніме.

**27 жніўня**

20 гадоў таму (1994) – У в. Малі пад Астраўцом усталяваны помнік Восіпу Гашкевічу (скульптар Валер’ян Янушкевіч), дыплямату, вучонаму, падарожніку.

**28 жніўня**

100 гадоў таму (1914) – У в. Панькі (Івейскі р-н) нарадзіўся Нікандар Мядзейка, беларускі настаўнік, дзеяч Беларускай Народнай Самапомачы, дзеяч эміграцыі (Францыя, ЗША). Вучыўся ў Барунах, працаваў у Лідзкай акрузе.

45 гадоў таму (1969) – У Аўстраліі ў аўтакатастрофе загінуў Сяргей Розмысл, палітычны і вайсковы дзеяч БКА на Лідчыне, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Сям’я жыла ў Гудзінішках (Вараноўскі р-н). Пахаваны ў Мэльбурне.

15 гадоў таму (1999) – У Міры пачаўся двухдзённы 1-ы агульнабеларускі конкурс народных майстроў “Дрэва жыцця”.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
ліпень 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

